

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС


Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 608, Травень-Чэрвень
2014 г. Год выданьня 65


## Шаноўныя чытачы!

Прапануем вашай увазе чарговы таксама здвоены нумар нашай газэты за 5-6 месяцы бягучага году. Па розных уважлівых прычынах давялося затрымацца зь ягоным выпускам.

Звычайна час летніх адпачынкаў не прыносіць шмат навінаў, бо грамадзкае жыцьцё ў беларускіх асяродках таксама запавольваецца. На жаль, прыбывае толькі навінаў у палітычным жыцьці сьвету, дзе разгараецца новы геапалітычны канфлікт. Эскалацыя ваенных дзеяньняў ва Украіне не спрыяе добрым прагнозам на будучыню, у тым ліку і для Беларусі, якая можа быць уцягнутая ў канфлікт на баку Расеі. Але ўжо сёньня за вольную Украіну там змагаюцца беларускія патрыёты, якія разумеюць, што гэта ідзе змаганьне і за лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны. Мы друкуем на першай старонцы інфармацыю пра заяву Рады БНР з нагоды падпісаньня Украінай, Малдовай і Грузіяй дамоваў аб асацыяцыі з Эўрапейскім Зьвязам. Вы пабачыце таксама інфармацыю пра трагедыю са зьбітым над Данецкам пасажырскім самалётам, у выніку якой загінулі каля трох соцень ні ў чым не павінных людзей. Гэты жахлівы прыклад сьведчыць пра тое, што ніхто ня можа заставацца ўбаку ад падзеяў ва Украіне, што вайна патэнцыяльна можа прыйсьці ў кожны дом, як гэта сталася для шмат якіх эўрапейскіх сем'яў, што страцілі сваіх блізкіх.

Гэты летні выпуск газэты мы вырашылі скарыстаць для таго, каб пазнаёміць вас са зьместам новага закона Рэспублікі Беларусь "Аб замежных беларусах". Мы сёньня ёсьць тыя самыя замежныя беларусы і закон мае непасрэднае дачыненьне да кожнага з нас. Прачытаўшы ягоны тэкст, вы будзеце мець уяўленьне, наколькі ён дапаможа ў падтрыманьні беларускага жыцьця па-за межамі Беларусі, наколькі ён дапаможа кожнаму з нас ці, наадварот, паставіць нейкія перашкоды ў кантактах з Бацькаўшчынаю. Вашымі думкамі вы можаце падзяліцца ў наступных выпусках нашай газэты.

Прапануем вам зьвярнуць асаблівую ўвагу на апошнюю старонку, дзе надрукавана паведамленьне і запросіны на Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая ўжо амаль праз месяц мае адбыцца ў Нью-Ёрку. Сёлета яе ладзяць амэрыканскія беларусы, гэта значыць, мы з вамі. Плянуйце гэтыя дні для сяброўскіх сустрэчаў з сурodзічамі з Канады ды зь іншых куткоў Амэрыкі, бярыце дзейсны ўдзел у гэтай важнай справе.

*Рэдакцыя*

## Рада Беларускай Народнай Рэспублікі падтрымала падпісаньне Украінай, Малдовай і Грузіяй дамоваў аб асацыяцыі з Эўрапейскім Зьвязам

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі распаўсюдзіла 28 чэрвеня афіцыйную заяву, у якой яна вітала падпісаньне 27 чэрвеня Украінай, Грузіяй і Малдовай пагадненьняў аб асацыяцыі з ЭЗ.

«Рада віншуе кіраўніцтва і народы гэтых блізкіх Беларусі краінаў з важным крокам на шляху эўрапейскае інтэграцыі, які адчыняе для іх новыя магчымасьці для эканамічнага і гуманітарнага разьвіцьця», гаворыцца ў заяве.

Рада БНР таксама выказала сваю падтрымку збліжэньню Беларусі і Эўрапейскага Зьвязу пры ўмовах вызваленьня і рэабілітацыі ўладамі Рэспублікі Беларусь усіх палітвязьняў, правядзеньня ў Беларусі выбараў па міжнародных стандартах і забесьпячэньня беларускім грамадзянам дэмакратычных свабодаў.

Вызваленьне Алеся Бяляцкага Рада БНР расцэньвае як станоўчы, але не дастатковы крок для пачатку нармалізацыі стасункаў паміж Менскам і міжнароднай супольнасьцю.

## Купальле ў Чыкага



Цудоўным сонечным ранкам 6 ліпеня з усіх куткоў Чыкага і прыгарадаў сьпяшаліся да знаёмага ўжо месца — паляны ў лясным масіве Блу Стар Мемарыял на поўначы ад горада — аўтамабілі зь беларускай сымболікай.

Беларусы Чыкага зьбіраліся разам, каб, як і спрадвеку іх продкі, адзначыць Купальле, адно з найбольш яскравых і паэтычных сьвятаў беларускага народу. Купальле — час найвышэйшага росквіту прыроды, сьвята ўзвелічэньня і традыцыйнага пакланеньня сонцу (агню), вадзе і расьліннасьці, сьвята, калі чалавек складае падзяку прыродзе за тое, што яна яму дае... І хоць сучасны сьвет не заўсёды прыхільна ставіцца да старажытных традыцый продкаў, гэта зусім не перашкаджае нам, так далёка ад роднай зямлі, адчуваць сябе беларусамі і сьвяткаваць амаль гэтак жа, як бы мы рабілі гэта на Радзіме.

Хаця, дарэчы, якраз перад сьвятам надыйшлі навіны зь Менску пра забарону сьвяткаваньня Купальля ў сталіцы (!?). І ня толькі там... Не хапае грошай — такое тлумачэньне! Але на "саўковыя" парады ў так званае сьвята незалежнасьці 3 ліпеня хапае ня толькі грошаў, але і прыгоннага люду... Мае ўласныя думкі пра падзеі на сто адсоткаў пераклікаюцца з тым, што гаворыць Уладзімір Халіп у сваім артыкуле "Крамольнае свята – Купальле": "Зірніце на калектыўныя здымкі валадара і ягонага атачэньня, якіх процьма ў інтэрнэце... Злыя, замшэлыя людзі. Правінцыйны варыянт не

*Працяг на 2-й бачыне*

# Купальле ў Чыкага



Працяг з 1-й бачыны

забыўнага Палітбюро. Электаральная недарэчнасьць.

Яны яшчэ спрабуюць затрымацца за сьпінамі ўзброенай аховы. Сьпяшаюцца штосьці там забараніць... Але што яны забароняць? Гісторыю, памяць народа? Плыньчасу зьмяце іх, і нават успаміну не застанецца. Шмат гонару, каб іх яшчэ помнілі..."

Але давайце лепей вернемся ў ліпеньскае Чыкага і ўвальёмся ў вясёлыя карагоды дзяўчатак і хлопцаў, сьпяём разам зь імі " Купалінку" і "Ой, рана на Івана", упрыгожым Купальскую Бабу і Купальскае Кола, паскачам пад гармонік з праўдзівым беларускім дзеркачом і пачастуемся чым Пан Бог паслаў ( а паслаў Ён вельмі шчодра!) за багатым абрадавым купальскім сталом, які быў сабраны і прыгатаваны супольна ўсёй грамадой! Давайце разам з нашымі прыгажунямі спляцём купальскія вянкі з кветак, галінак дуба, клёна, бярозы і ўспомнім пра нашу сінявокую Радзіму-Беларусь, дзе тыя вянкі паплылі б па Беразіне, Дняпры, Прыпяці...

Усе ведаюць беларускае паданьне, паводле якога ў Купальскую ноч нібыта расьцьвітае папараць-кветка, і той, хто яе адшукае, можа авалодаць усімі зямнымі скарбамі: будзе багаты і шчасьлівы, атрымае дар разумець мову зьвяроў, птушак, дрэў, расьлін. Давайце разам шукаць тую кветку (у нас на Чыкагшчыне яна расьцьвітае і кожны год хтосьці яе знаходзіць!) і лепшую долю!

Адзначым пра сябе, наколькі багата было на нашым сьвяце народу, і ня толькі карэнных беларусаў, якія ехалі на яго разам зь дзеткамі, бацькамі і знаёмымі, але і тых, хто паважае наш мірны, працавіты і таленавіты народ, яго мову, якая пявуча, вольна і ўпэўнена гучала пад час сьвяткаваньня. Адной з найвыбітнейшых прыкмет сьвяточных дзеяў, якія рыхтуе арганізацыйны камітэт нашай суполкі на чале з сп. Жанай Чарняўскай, зьяўляецца сталае пашырэньне кругу людзей, якія размаўляюць па-беларуску ў штодзённым жыцці).

Шкада, што па законах штату Ілінойс мы ня можам паліць вогнішчаў, каб скакаць праз іх, ды заставацца праз ноч у лесе, як патрабуе традыцыя... Але няхай выбачае нас Купала і няхай прыме да ўвагі наша праўдзівае пажаданьне ня страціць нацыянальную самабытнасьць, заставацца часткай беларускага люду, мець права ганарова звацца беларусамі ў Амэрыцы.

Да новых сустрэч на Купальле, сябры! Жыве Беларусь!

*Валянціна Вішнеўская*



# Надзея Дземідовіч: Кенгірскае паўстаньне патапілі ў крыві (да 60-й гадавіны падзеі)



Надзея Дземідовіч была вязьнем сталінскіх лягераў, вярнулася на Бацькаўшчыну праз доўгія гады зьняволеньня, была сьведкам і ўдзельніцаю новага беларускага Адраджэньня, а цяпер мусіць дажываць жыцьцё ізноў ва ўмовах дыктатарскага рэжыму. Яна – жывая сьведка трагічных старонак нашай гісторыі і сваім сьведчаньнем дапамагае новым пакаленьням больш глыбока разумець сэнс падзеяў мінулага і іх уплыву на наша сёньняшняе жыцьцё.

Сп. Надзея разамі са сваёй сястрою Марыяй пад час акупацыі былі ў Саюзе беларускай моладзі. Марыя з мужам Барысам Данілюком выехалі ў эміграцыю і тым самым уратаваліся ад сталінскіх рэпрэсіяў, яны былі актыўнымі ўдзельнікамі беларускага жыцьця ў Амэрыцы. Сп. Марыя жыве зараз у Нью-Джэрзі. А Надзеі, якая не адважылася пайсьці на чужыну, давялося ў поўнай меры заплаціць за сваю адданасьць беларускай справе.

Падаем інтэрвію са сп. Надзеяю Дземідовіч журналіста Міхася Скоблы з сайту Радыё Свабода.

16 траўня 1954 году пачалося паўстаньне ў Кенгірскім лягеры ў Казахстане. Сорак дзён вязьні адстойвалі выспу свабоды пасярод гулагаўскага архіпэлягу, вялі перамовы з адміністрацыяй аб пасабленьні рэжыму, патрабавалі прыслаць у лягер урадавую камісію. Калі ўлады зразумелі, што зламаць паўстанцаў ня ўдасца, распачаўся штурм з выкарыстаньнем танкаў. Былая палітзьняволеная Надзея Дземідовіч, асуджаная да 25 гадоў за сяброўства ў Саюзе беларускай моладзі, трапіла ў Кенгір у 1952 годзе.

**— Спадарыня Надзея, што ўяўляў зь сябе Кенгірскі лягер?**

— Ён быў агароджаны высокай сьцяной. Ні з цэглы, ні з дрэва была тая агароджа, глінабітная нейкая. Даўжэзныя баракі. Лягер падзяляўся на дзьве паловы — жаночую і мужчынскую. Быў гаспадарчы двор, там трымалі прадукты, прызначаныя для лягернікаў. Асобна стаялі баракі для дзесяцігоднікаў і дваццаціпяцігоднікаў. У лягеры было вельмі шмат вязьняў — тысячаў сем-восем.

**— Чым было выкліканае паўстаньне?**

— У нашым лягеры спачатку ўтрымліваліся адны палітычныя. Потым улады прыслалі да нас крымінальнікаў, блатных. Многа — можа, чалавек пяцьсот. Помню, у нашым бараку зьявіліся крыклівыя цёткі з чырвонымі нафарбаванымі губамі. Да мужчынаў таксама падсялілі розных бандытаў. Блатныя хацелі пакарыць палітычных. Як палітычныя пойдуць на работу, дык яны па іх торбах шманаюць. Нашыя хлопцы, чалавек пяць, сабраліся і пайшлі да нахабнікаў: што вы робіце? А тыя кажуць: «Сядзіце ціха, у нас нажы ёсьць». А хлопцы адказваюць: «А мы за адну зьмену можам сотню нажоў зрабіць». Тыя прысьмірэлі. Але іх падбухторвала лягерная адміністрацыя. Пасьля сьмерці Сталіна ў многіх лягерах адбылося пасабленьне рэжыму, падымалі «запрэткі», з вокнаў краты зьнялі. А ў нас — не. Ахова вычваралася па-ранейшаму, маглі проста застрэліць чалавека за нішто. І стралялі.

**— Ці шмат вязьняў удзельнічала ў паўстаньні?**

Працяг на 3-й бачыне

# Надзея Дземідовіч: Кенгірскае паўстаньне патапілі ў крыві (да 60-й гадавіны падзеі)

*Працяг з 2-й бачыны*

— Усе, апрача крымінальнікаў і сьведкаў Яговы (іх было каля сотні). Ноччу мужчыны прабілі праходы ва ўнутранай агароджы, і далей падзеі адбываліся ў жаночай зоне. Мы патрабавалі, каб з Масквы прыехала камісія і ва ўсім разабралася. Начальства абяцала, што прыедзе, але, як аказалася, падманвала. І тут зэкі падняліся, узялі ўладу ў свае рукі. Начальства пускалі ў зону, але раззбройвалі. Быў абраны свой урад, які ўзначаліў былы падпалкоўнік расеец Кузьняцоў. Баявыя групы ўзначаліў латыш Герыньш. Украінец Івашчанка кіраваў лягернай службай аховы. У лягеры было шмат беларусаў, дзяўчат, каторыя, як і я, з Саюзу беларускай моладзі: Іра Волкава, Жэня Шастак, Вэраніка Катковіч — яна апекавалася мною, была для мяне як маці. Многа было паляшучак, якія былі за Бандэру... Паўстаньне доўжылася сорак дзён — з 16 траўня па 26 чэрвеня 1954 году. Мы ведалі, што рана ці позна пачнецца штурм, рыхтаваліся. Але ня трацілі надзею на камісію з Масквы. Рабілі балёнікі, да якіх прымацоўвалі ўлёткі, — клікалі Маскву, каб яна прыйшла распараджацца. Тыя балёнікі расстрэльваліся, і салдаты ганяліся за ўлёткамі пад казахскім ветрам. Прыяжджала камісія з Алма-Аты. Але перамовы зь ёю не давалі выніку. Мы рыхтаваліся да штурму. Капалі равы на выпадак, калі пойдуць танкі, каб іх не пусьціць. Адміністрацыя ішла на хітрыкі. У лягернай агароджы прабілі дзірку — як машыне праехаць. Гэта каб узбунтаваць народ, каб людзі думалі, што там нікога няма, каб уцякалі зь лягеру. А там блізка былі засады... Але нашы кіраўнікі — разумныя людзі — забаранілі выходзіць, сказалі: гэта пастка. І — ніхто ня выйшаў. Ні з малагодкаў, ні з хворых — ніхто.

**— А як адбывалася задушэньне паўстаньня?**

— У той летні дзень я прачнулася ад грукату. Спачатку над лягерам нізка праляцелі самалёты, а потым праз праломы ў сьценах пайшлі танкі. Проста на людзей! Жэня Шастак уцякала і ўскочыла на падваконьне, дык танк яе дулам. згарнуў, і яна ўпала пад гусеніцы пры сьцяне. Але неяк уратавалася. Гэта на маіх вачах адбывалася. Падыходжу да другога бараку, а там — грамада войска: афіцэрня і салдаты з аўтаматамі. І нешта ў барак праз вокны кідаюць. Адтуль дым падымаецца, плач, крыкі чуваць, што настаў канец сьвету. А гэта яны кідалі душыцельны газ, і людзі ня ведалі, як ад яго бараніцца. Там быў барак, дзе жылі старыя і інваліды. Я там часта бывала, бо сябравала з адной старушкай. І той барак з жывымі людзьмі валілі танкамі! Я гэта на свае вочы бачыла. Ня дай Бог, не прывядзі Гасподзь такое каму перажыць... Паўстаньне было патопленае ў крыві.

**— Колькі чалавек загінула?**

— Адзін Бог ведае. Усіх не перадушылі. Ой, многа палягло... Там была маладая пара, латышы ці літоўцы, якія толькі што пажаніліся. Дык яны, калі пабачылі ўвесь гэты жах, каб далей ня мучыцца, узяліся за рукі і пад танк кінуліся. Абодва загінулі... Там і ксяндзы былі, таксама ўсе паляглі. А нас, пазасталых у жывых, вывелі ў стэп у сьпякоту і паклалі ніцма на зямлю. Доўга так ляжалі. Мы ўсе з нумарамі, але ўпершыню сталі чытаць прозьвішчы — выклікаць, каго куды разьмяркоўваць. Помню, калі нас выводзілі, я крычала: «Далоў берыеўскі праізвол! За што-за якое вы нас душыце? Судзіце яшчэ раз! Нашто вы прыслалі да нас крымінальнікаў?» Потым мяне прысьмірылі самі вязьні: «З-за цябе і нас пастраляюць».

**— І куды вы трапілі пасьля Кенгіру?**

— У тайшэцкія лягеры. Шчыпаць сьлюду, гэта вельмі шкодная праца. Там, дарэчы, сядзела і мая слонімская сяброўка Ніна Карач, там была сястра Вэранікі Катковіч — Анэля. Там ужо намі ніхто не пагарджаў. Мы выходзілі на работу, працавалі. І сталі мне старэйшыя жанчыны гаварыць, каб ішла да начальства, бо мяне ж выпускалі на свабоду ў Кенгіры. І я пайшла да оперупаўнаважанага. Ён выслухаў і сказаў: паглядзім. Праз пэўны час прыйшоў адказ: у сувязі з удзелам у Кенгірскім паўстаньні пакінуць у лягеры. І прабыла я ў тым клятым ГУЛАГу цэлых дванаццаць гадоў — з 1944 па 1956 год.

**— За год сяброўства ў СБМ вы атрымалі 25 гадоў ГУЛАГу. Усе былыя эсбээмаўцы, каго я ведаў і ведаю, назаўсёды засталіся патрыётамі Беларусі. Чэслаў Сэнюх з Варшавы, Ірына Волкава зь Пінску, Леакадзія Шышэя зь Вільні, мой унівэрсытэцкі выкладчык Алег Лойка... Чым вы гэта патлумачыце?**

— Я была ў СБМ з 1943 па 1944 год, у Слоніме, а загартоўка беларуская засталася на ўсё жыцьцё. І гэтак ня толькі ў мяне — ва ўсіх. Мы выцерпелі ўсё. І не шкадуем, што цярпелі. Мы хацелі, каб была беларуская дзяржава, каб беларусы не былі пад чыімсьці прыгнётам, каб жылі, як вольныя людзі. Алега Лойку я добра помню. Ён маладзейшы на гады тры за мяне, быў малодшым юнаком у СБМ. Ён хадзіў да Сяргея Новіка-Пеюна — яго мама завяла, ён усё беларускае чытаў. Тады мы пісалі першыя вершы — і я, і Лойка, і Васіль Супрун. А потым Лойка выбіўся, стаў прафэсарам у БДУ, потым дэканам філфаку. Але тады ён пра СБМ не расказваў. За Беларусь ён перажываў, выступаў, але пра СБМ маўчаў. Калі я яго бачыла, хацелася хоць трошкі пагаварыць. Аднойчы на нейкім сходзе ён стаяў у кампаніі. Я пачакала, пакуль яны пагавораць, потым падыйшла: «Алег, ты памятаеш мяне?» — «А гэта ж Надзя!» Лойка быў свой чалавек, нягледзячы на ўсе пасады.

**— Перад чэмпіянатам сьвету па хакеі адбылося шмат затрыманьняў. Што б вы пажадалі маладым хлопцам, якія сёньня знаходзяцца за кратамі?**

— Каму хакей, каму гулянкі, а каму — астрог. Каб не перашкаджалі... Хай Бог дасьць ім сілы трымацца. Мілыя хлопцы, заставайцеся ўсё жыцьцё беларусамі, не прадавайце сваёй Радзімы, сваёй мовы, не зракайцеся свайго. Мне так хочацца, каб вы, нашы дзеці і ўнукі, яшчэ шмат карыснага зрабілі для свае Беларусі.

# 70 гадоў бітве пад Монтэ-Касына



*У атацы Войска Польскае*



*Беларускія жаўнеры Войска Польскага*



*Мэмарыял у Монтэ-Касына*

19 траўня 1944 году скончылася перамогаю бітва за Монтэ-Касына, у якой бралі ўдзел і беларускія жаўнеры. Пачалася яна 17 студзеня 1944 году і стала адной зь вядомых і кравапралітных пад час Другой Усясьветнай вайны. У выніку бітвы саюзныя войскі прарвалі лінію нямецкіх умацаваньняў, якая насіла назву «Лінія Густава», і авалодалі Рымам.

Важную ролю пад Монтэ-Касына адыграла польская армія генэрала Уладзіслава Андэрса, у шэрагах якой ваявалі каля 8 тысяч беларусаў. Шмат хто зь іх аддалі там свае жыцьці, як сьведчаць надпісы зь беларускімі прозьвішчамі на брацкім могільніку.

# Застацца ў гісторыі

Лёсы архіваў беларускіх дзеячаў і арганізацый у замежжы — складаная, а часам і трагічная старонка айчыннай гісторыі. Можна прывесьці дзясяткі прыкладаў зьнікненьня ці нават сьвядомага зьнішчэньня каштоўных збораў нашчадкамі або нейкімі структурамі. Разам з тымі дакумэнтамі зьнікае вялікі пласт інфармацыі й сам даробак суродзічаў за мяжой. Яны застаюцца нябачнымі й для дасьледчыкаў, і, як вынік, для шэраговых суайчыньнікаў.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва паўстала навукова-творчая ініцыятыва "Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа". Стварэньне такой структуры зьвязана зь неабходнасьцю сыстэматычнага зьбіраньня дакумэнтаў, друкаў, артэфактаў, што ствараліся й ствараюцца беларусамі па-за межамі мэтраполіі. Калі раней функцыі такога зьбіраньня ў пэўнай ступені выконвалі эміграцыйныя ўстановы на Захадзе, як, прыкладам, Беларускі інстытут навукі й мастацтва і Фундацыя Крэчэўскага ў Нью-Ёрку, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане, або Цэнтар Ф. Скарыны ў Менску, дык цяпер, з пашырэньнем геаграфіі беларускіх дыяспар, сыстэматычнага мэтанакіраванага зьбіраньня даробку замежных суайчыньнікаў не вядзецца. У выніку каштоўная частка беларускай культурнай спадчыны губляецца для сучасных і будучых дасьледчыкаў.

Паводле задумы, новы Цэнтар прызначаны для садзейнічаньня выяўленьню, захаваньню, апісаньню, вывучэньню й папулярызацыі дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа на базе Беларускага дзяржаўнага архіва-музэя літаратуры й мастацтва.

Варта адзначыць, што ў БДАМЛіМ на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў ужо ішло паступовае зьбіраньне замежнай беларусікі. Свае архіўныя зборы сюды перадалі вядомыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель. Нядаўна ў архіў была перададзеная вялікая калекцыя дакумэнтаў згаданага ўжо вышэй Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Такім чынам, новаствораны Цэнтар мае добрую базу для сваёй дзейнасьці.

Сярод задач Цэнтра можна адзначыць выяўленьне беларускіх дакумэнтаў у замежных архівах, музэях і бібліятэках, зборах арганізацый беларускага замежжа, а таксама прыватных асобаў; арганізацыю камплектаваньня й стварэньне архіўных фондаў беларускіх грамадзка-культурных арганізацый замежжа й дзеячаў беларускіх дыяспар у складзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музэя літаратуры й мастацтва; навуковае апісаньне дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа; спрыяньне яе навуковаму вывучэньню; папулярызацыя ў беларускім грамадзтве ведаў пра дзейнасьць за мяжой беларускіх арганізацый, выдатных асобаў беларускага паходжаньня. Мяркуецца ажыцьцяўляць кансультаваньне зацікаўленых асобаў па пытаньнях захаваньня й вывучэньня дакумэнтаў, публікацыю матэрыялаў на падставе сабраных архіваў.

Сёньня надзвычай важным ёсьць зьбіраньне дакумэнтаў і друкаў дзеючых арганізацый і суполак, а таксама захаваньне архіваў дзеячаў далёкага й блізкага замежжа. Таму Цэнтар спадзяецца наладзіць цеснае супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі асобамі й арганізацыямі як за мяжой, так і ў Беларусі, каб ня даць зьнікнуць багатай спадчыне беларускага замежжа.

У справе супрацоўніцтва па пытаньнях, зьвязаных з захаваньнем і вывучэньнем замежнай беларусікі, можна зьвяртацца да дырэктара БДАМЛіМ Ганны Запартыкі або гісторыка Натальлі Гардзіенкі

Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва.
Сайт: http://bdamlm.by/
Адрас: Мінск, вул. Кірыла і Мефодыя, 4.
Тэл.: +375(17)3274781.
E-mail: bdamlim@tut.by; nhardzijenka@gmail.com.

*Натальля Гардзіенка*

*Цэнтр камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа*

# Над Данбасам зьбіты пасажырскі самалёт



Самалёт Боінг-777 малазійскіх авіяліній 17 ліпеня быў зьбіты ў раёне украінска-расейскай мяжы. Падазраюцца сэпаратысты.

http://gdb.rferl.org/259FFEDB-1EC4-438E-A4F2-A154F55B4A5E_mw640_mh331_s.jpg

Самалёт упаў каля гораду Шахцёрск Данецкай вобласьці. Прадстаўнік украінскага МУС паведаміў, што загінулі 280 чалавек і 15 сябраў экіпажу. Самалёт ляцеў з Амстэрдаму ў Куала-Лумпур.

У ЗША пацьвярджаюць: самалёт быў зьбіты.

Злучаныя Штаты прыйшлі да высновы, што малайзійскі авіялайнэр быў зьбіты. Адна з амэрыканскіх радарных сыстэмаў зафіксавала пуск ракеты зямля-паветра і сьледаваньне яе за самалётам непасрэдна перад падзеньнем. Яшчэ адна сыстэма зафіксавала цеплавую сыгнатуру ў той момант, калі самалёт прыняў удар. Злучаныя Штаты аналізуюць траекторыю ракеты, каб паспрабаваць выявіць месца, адкуль яна была запушчаная.

Служба бясьпекі Украіны апублікавала на партале youtube перахоп перамоваў сэпаратыстаў пра зьбіты самалёт.

У перахопленым радыёабмене адзін з камандзіраў вайсковых фармаваньняў сэпаратыстаў Безьлер («Бес») дакладвае свайму куратару палкоўніку ГРУ РФ Германіну пра толькі, што зьбіты баевікамі цывільны самалёт.

Сярод пасажыраў зьбітага ляйнэра было 80 дзяцей. Як паведамілі прадстаўнікі малайзійскіх авіяліній, з ідэнтыфікаваных ахвяраў – 154 галяндцы, 27 аўстралійцаў, 23 малайцы, 11 інданэзійцаў, 6 брытанцаў, 4 немцы, 4 бэльгійцы, 3 філіпінцы, 1 канадзец. Раней паведамлялася, што сярод пасажыраў былі 23 амэрыканцы.

# Храмавае сьвята ў Гайлэнд-Парку

25 траўня Парафія царквы Жыровіцкае іконы Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (БАПЦ) адзначала сваё храмавае сьвята. З гэтай нагоды адбылася архірэйская багаслужба, якую ўзначаліў прадстаяцель Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Высокапраасьвяшчэньнейшы Ўладыка Сьвятаслаў. Яму саслужылі восем сьвятароў і дыякан, якія прыехалі ў гэты дзень падзяліць разам з усімі прысутнымі вернікамі радасьць традыцыйнага царкоўнага сьвята. Напярэдадні Ўладыка Сьвятаслаў і настаяцель храму протаярэй Зіновій Жалобак разам адслужылі ў храме вячэрню.

У нядзелю ўрачыстасьці пачаліся сустрэчаю Ўладыкі Сьвятаслава пры ўваходзе ў царкву. Старшыня царкоўнай рады Віктар Дубяга сустрэў архіяпіскапа з хлебам-сольлю й запрасіў у храм. А старшая сястра (кіраўнічка сястрыцтва) Людміла Бакуновіч падаравала яму жывыя кветкі.

Перад пачаткам літургіі Ўладыка Сьвятаслаў узнагародзіў алтарных прыслужнікаў Зьмітра Жалобака й Юрку Проця правам нашэньня арара за іх шматгадовую і ўзорную працу. А на малым выхадзе Ўладыка Сьвятаслаў за заслугі перад Царквою ўзнагародзіў Зіновія Жалобака, настаяцеля храма Жыровіцкае іконы Божае Маці, высокаю царкоўнаю мітраю. Пазьней былі ўганараваныя дзьве актывісткі сястрыцтва – Ганна Войтанка ды Жэня Дубяга. Яны атрымалі з рук Уладыкі Сьвятаслава архірэйскія граматы.

У гонар сьвята адбыўся хрэсны ход вакол храма з чытаньнямі Эвангельляў.

Настаяцель храму протаярэй Зіновій Жалобак у канцы службы выказаў падзяку Ўладыку Сьвятаславу й сьвятарам за ўдзел у парафіяльным сьвяце. Таксама падзякаваў рэгенту хору Якубу Сапяжынскаму й харыстам за цудоў-нае сьпяваньне, а старшыні царкоўнай рады Віктару Дубягу й яго жонцы Але – за старанную ды вялікую працу на карысьць Парафіі. Усім гасьцям і парафіянам было прасьпявана "Многая лета", пасьля гэтага айцец Зіновій запрасіў прысутных на сьвяточны абед, дзе працягваліся ўрачыстасьці й размовы. Варта дадаць, што гэтае традыцыйнае сьвята ў Гайлэнд-Парку сабрала шмат людзей, былі госьці з Вашынгтону, Кліўлэнду, Нью-Ёрку. Дый нават пасьля багаслужбы прыяжджалі сьвятары зь іншых парафій павітаць прыхаджан і настаяцеля царквы Жыровіцкае іконы Божае Маці.

*Я. З.*

# Ірына Варабей: да 5-й гадавіны заснаваньня "Spirit of Belarus"



Мая сяброўка па іголцы Мэры Уэл ( Mary Wahl) узгадала, што ў мяне ёсьць нагода адзначыцца: 5 год, як я заснавала сваю мастацка-дызайнэрскую кампанію "Spirit of Belarus".

Няма ў мяне спэцыфічнай даты заснаваньня - усё нараджалася спантанна. Але ўсё ж гэтае пяцігодзьдзе я адлічваю ад таго, як пад гэтым брэндам пачалося маё супрацоўніцтва з часопісам "A Needle Pulling Thread".

А ў Тарантаўскую гільдыю вышывальніц я прыйшла, калі дакладна, не 10, а 9 год таму. Дату буду спраўляць улетку (трэба на гэты раз неяк падрыхтавацца ўсё ж ). У 2005 годзе я зьявілася ў Гільдыі. Гэта я дакладна памятаю, бо гэта быў вельмі ўдалы час, бо якраз у той год, ў травені, Гільдыя прымала ў сябе, у Таронта, штогадовы ўсеканадыйскі Семінар. І я была шчаслівая бачыць усю "кухню" падрыхтоўкі, а затым мне яшчэ пашанцавала: арганізатары забыліся запрасіць фатографа, я прапанавала свае паслугі - і вуаля! - я мела пропуск на ўсе падзеі Семінара й нават на заключны банкет! Вось там, на Семінары, пад час шоў-выставы работ сябраў Канадыйскай асацыяцыі вышывальніц, мы з Мэры і пасябравалі: яна была арганізатарам і наглядальніцай там цягам




некалькіх дзён, а я там рабіла здымкі кожнай работы і дапамагала Мэры.

Зрэшты, мушу дадаць мае падзякі ўсім таваркам па Гільдыі: мне на гэтай выставе на Семінары зрабілі асобны куток-дысплей з маімі работамі пад назвай "Impressions of Belarus" - вось так яны прынялі "зялёнага навапрыбыша"... Але аб усім гэтым - наступным разам, налета, на дзесяцігодздзе...

А сёньня - ліст-артыкул маёй сяброўкі Мэры, які яна даслала на бізнэс-старонку кампаніі "Spirit of Belarus". Я падаю пераклад на беларускую мову (лінк на арыгінал: http://3.bp.blogspot.com/-KAjG7T7cBwo/U3U9AcNMiEI/AAAAAAAAAMs/TNwiTpGjDL0/s1600/add_4x5_a_800.jpg

Мушу яшчэ сказаць некалькі слоў пра аўтара. Мэры Уэл - майстрыха-дызайнэр у вышыўцы, у пэчўорку і вырабу лялек. Сябра многіх спэцыялізаваных гільдый. Былая старшыня Тарантаўскай гільдыі вышывальніц. Пераможца шматлікіх конкурсаў, уладальніца шматлікіх узнагарод... Я ганаруся сваім сяброўствам зь ёй. А сёньня ўдзячна ёй за такі ліст і за тое, што нагадала мне пра мой маленькі юбілей

## Ліст ад Мэры Уэл (Mary Wahl)

"Споўнілася 5 год ад таго часу, як мая сяброўка Ірына заснавала сваю дызайнэрскую кампанію "Spirit of Belarus". Дзесяць год таму яна прыйшла ў Тарантаўскую гільдыю вышывальніц. І вось я хачу сказаць некалькі словаў аб ёй - маёй добрай сяброўцы Ірыне.

Ірына - вельмі творчая асоба. Мяне вабяць ейныя вышыванкі й дызайны, якія заснаваныя на вобразах ейнай роднай беларускай культуры.

Мы пазнаёміліся зь ёй на паседжаньнях Тарантаўскай гільдыі вышывальніц, калі яна прыйшла да нас. Мы ўдвох пасябравалі, бо я часта падвозіла яе да бліжэйшай станцыі метро. Праз гады было вельмі цікава назіраць, наколькі цудоўна яна абапіраецца на сваю нацыянальную спадчыну ва ўсім, што яна робіць. І гэта нягледзячы на тое, што яна так даўно не была на Радзіме, нават зь візытам.

У травені 2005 на сяброўскай выставе пад час Семінару, які штогод ладзіць Канадыйская асацыяцыя вышывальніц, Ірына прадставіла дысплей са сваімі работамі. Гэта была першая для яе магчымасьць паказаць сябрам Асацыяцыі ды іншым тое, што яна можа рабіць. Гэта былі работы ў стылізаваных дызайнах, заснаваных на нацыянальных арнамэнтах. Куток зь ейнымі работамі настолькі прываблівай людзей такім кшталтам традыцыйнай этнічнай вышыўкі, дагэтуль невядомай канадыйскім рукадзельніцам. І тады яна вырашыла працаваць цалкам са сваімі нацыянальнымі матывамі. З другога боку, яна прагна хацела навучыцца новым тэхнікам. Такім чынам і нарадзіўся ейны собскі адметны стыль этна-мадэрн: унікальны, прывабны - зусім не падобны на тое, што мы прывыклі бачыць. Ейныя вышыванкі сапраўды прыгожыя! Ейныя чароўныя беларускія дызайны вельмі прыемныя для вышываньня. Вось таму Ірына вырашыла скарыстаць сваё дызайнэрскае майстэрсва для таго, каб рабіць схемы для іншых і заснавала сваю кампанію.

Асабіста я атрымліваю асалоду ад ейных дызайнаў, зробленых у нацыянальным лубочным стылі. Яны заснаваны на старых вобразах і гісторыях, якія для нас ёсьць вельмі незвычайнымі і прывабнымі, бо цікава знаёміцца з новым пад час вышываньня.

А яшчэ Ірына дае клясы. Вось напрыклад, у краме "Gitta's", дзе прадаюцца ейныя дызайны. Тут яна рабіла варштаты па ейных дызайнах. У студзені 2014 яна навучала нас, дзённую групу Тарантаўскай гільдыі, як вышываць беларускай тэхнікай "нізанка" на прыкладзе сваіх дызайнаў. Усе былі вельмі задаволеныя гэтым варштатам, у многіх у выніку атрымаліся закончаныя вырабы. Нізанка - гэта адзін зь відаў арнамэнтальнага выпляценьня на тканіне. Ірына зрабіла нам слайд-шоў, на якім мы ўбачылі такія прыгожыя традыцыйныя беларускія ўзоры, вельмі мудрагелістыя, але насамрэч робяцца яны проста. Некаторыя зь іх ствараюць аптычны эфэкт. Такія ўзоры вышываліся на адзеньні, посьцілках, паясах, яшчэ на рушніках, дзе яны ігралі сваю ролю ў старажытных язычніцкіх рытуалах і г.д. У гэтай тэхніцы няма вузлоў, а ўзор выглядае слушна з абодвух бакоў.

У дадатак да вышываньня, Ірына яшчэ ёсьць цудоўным фатографам. Я захапляюся ейнымі здымкамі. Ведаю, што яна выйграла некалькі прызоў у фатаграфіі. У яе ёсьць сын, ён - выдатны спартовец-роварнік. Разам зь ім ды ягоным роварам Ірына шмат вандруе, здымаючы ўсё на сваім шляху.

Схемы да Ірыніных дызайнаў ёсьць у продажы. Вы можаце іх знайсьці на ейным вебсайце ды ў дзьвюх ейных он-лайн крамах.

*Мэры Уэл (Mary Wahl)*
*2 траўня 2014*



# Беларусаў замежжа аддалі пад кантроль Міністэрства замежных спраў

*14 траўня 2014 дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у другім чытанні ўхвалілі закон «Аб беларусах замежжа». Такі закон у Беларусі быў прыняты ўпершыню.*

*Дэпутаты заслухалі намесьніка старшыні міжнароднай камісіі Віктара Фесака, які адзначыў: законапраектам прадугледжана, што адзіным дзяржаўным органам, які адказвае за каардынацыю ў гэтай сфэры будзе Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.*

*Законапраект быў ухвалены ў другім чытаньні без дыскусіі. У першым чытаньні гэты законапраект прынялі 22 лістапада 2013 года.*

*На сёньня за межамі Беларусі дзейнічае 220 беларускіх суполак, найбольш вялікія зь іх — у Расіі, Літве, Польшчы, Казахстане, Украіне, ЗША і Канадзе.*

*Дзеля найбольш поўнай інфармацыі нашых чытачоў і дзеля карыстаньня падаем у газэце поўны тэкст закону.*

*Запрашаем нашых чытачоў падзяліцца думкамі наконт закону, ці адпавядае ён нашым патрэбам, ці гэта той дакумэнт, які чакаўся каля 20 гадоў. Прапановы пра такі закандаўчы дакумэнт выказваліся яшчэ на першым зьезьдзе беларусаў сьвету ў 1993 годзе, якія трасфармацыі адбыліся зь ідэяю закону за гэты час. Пішыце свае заўвагі і аналізы.*

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

16 чэрвеня 2014 г. № 162-3

## Аб беларусах замежжа

Прыняты Палатай прадстаўнікоў 14 мая 2014 года
Адобраны Саветам Рэспублікі 30 мая 2014 года

ГЛАВА 1
АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Асноўныя тэрміны, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым Законе, і іх азначэнні**

Для мэт гэтага Закона выкарыстоўваюцца наступныя асноўныя тэрміны і іх азначэнні:

беларусы замежжа – асобы, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і ідэнтыфікуюць сябе як беларусы або з'яўляюцца выхадцамі з тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь;

грамадскія аб'яднанні (арганізацыі) беларусаў замежжа – добраахвотныя аб'яднанні беларусаў замежжа, створаныя імі ва ўстаноўленым заканадаўствам замежнай дзяржавы парадку ў мэтах сумеснай рэалізацыі сваіх нацыянальных, культурных і іншых правоў;

грамадскія аб'яднанні па сувязях з беларусамі замежжа – грамадскія аб'яднанні, створаныя ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку ў мэтах садзейнічання беларусам замежжа ў рэалізацыі іх нацыянальных, культурных і іншых правоў;

дзяржаўная палітыка Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа (далей – дзяржаўная палітыка ў галіне адносін з беларусамі замежжа) – комплекс мер, накіраваных на падтрымку беларусаў замежжа, якія прымаюцца дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь у мэтах садзейнічання беларусам замежжа ў рэалізацыі іх нацыянальных, культурных і іншых правоў.

**Артыкул 2. Сфера дзеяння гэтага Закона**

Гэты Закон вызначае асноўныя прынцыпы, мэты і напрамкі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа ў мэтах забеспячэння салідарнасці беларусаў ва ўсім свеце, захавання нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа і ўмацавання іх сувязей з Рэспублікай Беларусь, а таксама катэгорыі асоб, якія адносяцца да беларусаў замежжа, і меры дзяржаўнай падтрымкі, што аказваецца беларусам замежжа ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі.

**Артыкул 3. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа грунтуецца на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і складаецца з гэтага Закона, іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія прадугледжаны гэтым Законам, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Артыкул 4. Асобы, якія адносяцца да беларусаў замежжа**

Да беларусаў замежжа адносяцца наступныя асобы:

грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь;

замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і самі або іх продкі па прамой узыходзячай лініі нарадзіліся або пражывалі на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь;

замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і ідэнтыфікуюць сябе як беларусы з пункту гледжання этнічнай прыналежнасці да беларускага народа або беларускай мовы, культуры, гістарычных сувязей, ведання і захавання беларускіх традыцый і звычаяў.

Прызнанне асобамі сваёй прыналежнасці да беларусаў замежжа ў адпаведнасці з абзацамі трэцім і чацвёртым часткі першай гэтага артыкула з'яўляецца актам іх самаідэнтыфікацыі, падмацаваным грамадскай або прафесійнай дзейнасцю па захаванні беларускай мовы, развіцці беларускай культуры за мяжой, умацаванні сяброўскіх адносін дзяржаў грамадзянскай прыналежнасці або пастаяннага месца жыхарства беларусаў замежжа з Рэспублікай Беларусь і іншымі пацвярджэннямі добраахвотнага выбару на карысць духоўнай і культурнай сувязей з беларускай дзяржавай.

**Артыкул 5. Грамадскія аб'яднанні (арганізацыі) беларусаў замежжа і грамадскія аб'яднанні па сувязях з беларусамі замежжа**

Грамадскія аб'яднанні (арганізацыі) беларусаў замежжа і грамадскія аб'яднанні па сувязях з беларусамі замежжа могуць:

аказваць садзейнічанне ў рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа;

уносіць у дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь прапановы па ўдасканаленні дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа;

папулярызаваць беларускія культурныя каштоўнасці, беларускую мову, а таксама беларускія традыцыі і звычаі;

ажыццяўляць іншую дзейнасць у галіне адносін з беларусамі замежжа, не забароненую заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

ГЛАВА 2
ДЗЯРЖАЎНАЕ РЭГУЛЯВАННЕ І КІРАВАННЕ Ў ГАЛІНЕ АДНОСІН З БЕЛАРУСАМІ ЗАМЕЖЖА

**Артыкул 6. Ажыццяўленне дзяржаўнага рэгулявання і кіравання ў галіне адносін з беларусамі замежжа**

Дзяржаўнае рэгуляванне і кіраванне ў галіне адносін з беларусамі замежжа ажыццяўляюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, Урадам Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей, абласнымі і Мінскім гарадскім выканаўчымі камітэтамі, іншымі дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Паўнамоцтвы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь вызначае агульную дзяржаўную палітыку ў галіне адносін з беларусамі замежжа, ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Паўнамоцтвы Урада Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Урад Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа:

забяспечвае рэалізацыю агульнай дзяржаўнай палітыкі;

зацвярджае дзяржаўныя праграмы і ажыццяўляе кантроль за іх рэалізацыяй;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, гэтым Законам, актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Паўнамоцтвы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа:

каардынуе дзейнасць рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, грамадскіх аб'яднанняў па сувязях з беларусамі замежжа і іншых арганізацый па рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа;

каардынуе распрацоўку і прымае ўдзел у межах сваёй кампетэнцыі ў рэалізацыі дзяржаўных праграм;

ажыццяўляе штогадовы маніторынг адносін з грамадскімі аб'яднаннямі (арганізацыямі) беларусаў замежжа;

аказвае садзейнічанне дзяржаўным органам Рэспублікі Беларусь, грамадскім аб'яднанням па сувязях з беларусамі замежжа, іншым арганізацыям і грамадзянам Рэспублікі Беларусь у развіцці супрацоўніцтва з беларусамі замежжа;

узаемадзейнічае і развівае кантакты з беларусамі замежжа, ажыццяўляе ў межах сваёй кампетэнцыі меры па забеспячэнні іх нацыянальных, культурных і іншых правоў;

уносіць ва Урад Рэспублікі Беларусь прапановы па развіцці супрацоўніцтва з беларусамі замежжа і грамадскімі аб'яднаннямі (арганізацыямі) беларусаў замежжа;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Паўнамоцтвы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа:

прымае ўдзел у межах сваёй кампетэнцыі ў распрацоўцы і рэалізацыі дзяржаўных праграм;

усталёўвае і развівае супрацоўніцтва па пытаннях культуры з беларусамі замежжа і грамадскімі аб'яднаннямі (арганізацыямі) беларусаў замежжа, аказвае садзейнічанне ў гэтым грамадскім аб'яднанням па сувязях з беларусамі замежжа і іншым зацікаўленым;

аказвае беларусам замежжа практычную дапамогу ў захаванні і развіцці нацыянальна-культурнай самабытнасці;

садзейнічае папулярызацыі беларускай культуры і традыцый сярод беларусаў замежжа;

уносіць ва Урад Рэспублікі Беларусь прапановы па развіцці супрацоўніцтва з беларусамі замежжа і грамадскімі аб'яднаннямі (арганізацыямі) беларусаў замежжа;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11. Паўнамоцтвы Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей у галіне адносін з беларусамі замежжа:

прымае ўдзел у межах сваёй кампетэнцыі ў распрацоўцы і рэалізацыі дзяржаўных праграм;

арганізуе садзейнічанне і дапамогу ў задавальненні нацыянальна-культурных патрэб беларусаў замежжа і грамадскіх аб'яднанняў (арганізацый) беларусаў замежжа ва ўмацаванні іх сувязей з Рэспублікай Беларусь;

садзейнічае інфармацыйнаму забеспячэнню беларусаў замежжа;

уносіць ва Урад Рэспублікі Беларусь прапановы па развіцці супрацоўніцтва з беларусамі замежжа;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Паўнамоцтвы абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Абласныя і Мінскі гарадскі выканаўчыя камітэты ў галіне адносін з беларусамі замежжа:

прымаюць удзел у межах сваёй кампетэнцыі ў рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа на рэгіянальным узроўні;

садзейнічаюць усталяванню і развіццю супрацоўніцтва з беларусамі замежжа, у тым ліку праз грамадскія аб'яднанні (арганізацыі) беларусаў замежжа, на рэгіянальным узроўні;

ажыццяўляюць іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 13. Паўнамоцтвы іншых дзяржаўных органаў і арганізацыйРэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа**

Іншыя дзяржаўныя органы і арганізацыі Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа ў межах сваёй кампетэнцыі:

прымаюць удзел у распрацоўцы і рэалізацыі дзяржаўных праграм;

распрацоўваюць і забяспечваюць рэалізацыю галіновых, мясцовых і іншых праграм і мерапрыемстваў;

узаемадзейнічаюць з беларусамі замежжа, ажыццяўляюць меры па забеспячэнні іх нацыянальных, культурных і іншых правоў;

аказваюць садзейнічанне грамадскім аб'яднанням па сувязях з беларусамі замежжа і іншым зацікаўленым юрыдычным і фізічным асобам у развіцці супрацоўніцтва з беларусамі замежжа;

уносяць ва Урад Рэспублікі Беларусь прапановы па развіцці супрацоўніцтва з беларусамі замежжа і грамадскімі аб'яднаннямі (арганізацыямі) беларусаў замежжа;

ажыццяўляюць іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 14. Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь**

У мэтах вызначэння максімальна эфектыўнай дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа ствараецца Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь (далей – Кансультатыўны савет).

Асноўнымі задачамі Кансультатыўнага савета з'яўляюцца:

падрыхтоўка прапаноў па ўдасканаленні дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа;

садзейнічанне стварэнню эфектыўных механізмаў супрацоўніцтва дзяржаўных органаў і арганізацый Рэспублікі Беларусь з беларусамі замежжа ў культурнай, адукацыйнай, інфармацыйнай і іншых сферах.

Палажэнне аб Кансультатыўным савеце і персанальны склад гэтага савета зацвярджаюцца Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

Рашэнні Кансультатыўнага савета, прынятыя ў адпаведнасці з яго асноўнымі задачамі, носяць рэкамендацыйны характар.

**Артыкул 15. Кансультатыўныя органы па справах беларусаў замежжа пры рэспубліканскіх органах дзяржаўнага кіравання, абласных і Мінскім гарадскім выканаўчых камітэтах**

Для абмеркавання пытанняў узаемадзеяння з беларусамі замежжа пры рэспубліканскіх органах дзяржаўнага кіравання, абласных і Мінскім гарадскім выканаўчых камітэтах могуць ствараццa кансультатыўныя органы – саветы (камісіі) па справах беларусаў замежжа.

Палажэнні аб саветах (камісіях) па справах беларусаў замежжа і персанальныя склады гэтых саветаў (камісій) зацвярджаюцца дзяржаўнымі органамі, пры якіх гэтыя саветы (камісіі) ствараюцца.

## ГЛАВА 3
## ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ГАЛІНЕ АДНОСІН З БЕЛАРУСАМІ ЗАМЕЖЖА

Дзяржаўная палітыка ў галіне адносін з беларусамі замежжа засноўваецца на:

агульнапрызнаных прынцыпах і нормах міжнароднага права;

прызнанні прыналежнасці кожнаму ад нараджэння неад'емных асноўных правоў і свабод чалавека і грамадзяніна;

падтрыманні адносін з беларусамі замежжа на аснове ўзаемнай павагі і партнёрства;

прызнанні неабходнасці забеспячэння нацыянальных, культурных і іншых правоў беларусаў замежжа ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права, а таксама з улікам заканадаўства дзяржаў грамадзянскай прыналежнасці і пастаяннага месца жыхарства беларусаў замежжа;

абавязковасці ўліку дзеянняў замежных дзяржаў у дачыненні да беларусаў замежжа, якія пражываюць на іх тэрыторыі, пры выпрацоўцы і рэалізацыі палітыкі Рэспублікі Беларусь у дачыненні да гэтых дзяржаў;

аказанні дзяржаўнай падтрымкі ў рэалізацыі нацыянальных, культурных і

*Працяг на 8-й бачыне*

# Беларусаў замежжа аддалі пад кантроль Міністэрства замежных спраў

*Працяг з 7-й бачыны*

іншых правоў беларусаў замежжа і грамадскіх аб'яднанняў (арганізацый) беларусаў замежжа, якія імкнуцца да развіцця і ўмацавання сяброўскіх адносін паміж замежнымі дзяржавамі і Рэспублікай Беларусь і чыя дзейнасць адпавядае нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Мэты і напрамкі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа**

Дзяржаўная палітыка ў галіне адносін з беларусамі замежжа накіравана на:

садзейнічанне захаванню нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа;

аказанне садзейнічання беларусам замежжа ў рэалізацыі імі нацыянальных, культурных і іншых правоў з улікам агульнапрызнаных прынцыпаў і норм міжнароднага права, заканадаўства дзяржаў грамадзянскай прыналежнасці і пастаяннага месца жыхарства беларусаў замежжа;

выпрацоўку дзейсных механізмаў падтрымкі беларусаў замежжа для задавальнення культурных, інфармацыйных, моўных і іншых патрэб беларусаў замежжа;

умацаванне сувязей паміж беларусамі замежжа і Рэспублікай Беларусь;

выкарыстанне патэнцыялу беларусаў замежжа для развіцця беларускай дзяржавы, у тым ліку для наладжвання рознабаковага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з замежнымі краінамі;

садзейнічанне стварэнню ў Рэспубліцы Беларусь грамадскіх аб'яднанняў па сувязях з беларусамі замежжа;

стварэнне спрыяльных умоў для беларусаў замежжа, якія прынялі рашэнне пераехаць у Рэспубліку Беларусь на часовае ці пастаяннае месца жыхарства.

**Артыкул 18. Падтрымка беларусаў замежжа**

Ажыццяўленне дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа павінна садзейнічаць:

стварэнню ўмоў для вывучэння беларусамі замежжа беларускай мовы, нацыянальнай гісторыі і культуры;

адкрыццю і дзейнасці культурных цэнтраў Рэспублікі Беларусь у краінах пражывання беларусаў замежжа;

дзейнасці існуючых і стварэнню новых арганізацый культуры, навуковых арганізацый, а таксама арганізацый, якія ажыццяўляюць адукацыйную дзейнасць для беларусаў замежжа ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі, у тым ліку забеспячэнню іх вучэбнымі праграмамі, падручнікамі, вучэбнымі і вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі

для выкладання беларускай мовы, нацыянальнай гісторыі і культуры за межамі Рэспублікі Беларусь;

культурнаму і адукацыйнаму абмену паміж Рэспублікай Беларусь і грамадскімі аб'яднаннямі (арганізацыямі) беларусаў замежжа; выданню работ замежных і айчынных аўтараў па гісторыі і культуры Беларусі і беларусаў замежжа;

правядзенню культурных і навуковых мерапрыемстваў беларусаў замежжа як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў краінах пражывання беларусаў замежжа;

рэалізацыі права на адукацыю ў Рэспубліцы Беларусь у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

атрыманню, распаўсюджванню інфармацыі і карыстанню ёй на беларускай мове, доступу да сродкаў масавай інфармацыі, зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь;

аказанню ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь гуманітарнай дапамогі беларусам замежжа, якія апынуліся ў надзвычайных сітуацыях;

рэалізацыі іншых мер у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 19. Фінансаванне дзейнасці ў галіне адносін з беларусамі замежжа**

Фінансаванне дзейнасці ў галіне адносін з беларусамі замежжа ажыццяўляецца ў адпаведнасці з прынятымі дзяржаўнымі праграмамі і мерапрыемствамі за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, іншых крыніц фінансавання ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

ГЛАВА 4
ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 20. Меры па рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона**

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін:

сумесна з Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку прапановы па прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прыняць меры па прывядзенні іншых нарматыўных прававых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам і іншыя меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона.

**Артыкул 21. Парадак уступлення ў сілу гэтага Закона**

Гэты Закон уступае ў сілу ў наступным парадку:

артыкулы 1–19 – праз тры месяцы пасля афіцыйнага апублікавання гэтага Закона;

іншыя палажэнні – пасля афіцыйнага апублікавання гэтага Закона.

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*
*А.Лукашэнка*

# Рэстаран «Беларускі пекар» адкрылі ў штаце Місуры




Беларускую кухню можна пакаштаваць у невялікім амэрыканскім горадзе Хігінсвілі ў штаце Місуры. Рэстаран The Belarusian Baker, што ў перакладзе значыць «беларускі пекар», трымае сям'я Кордэраў: беларуска Наталля і яе муж Пол.

Наталля апынулася ў ЗША, калі пабралася шлюбам з пастарам Полам. Яна яшчэ ў Менску працавала пекарам. «Я вельмі сумавала па нашых стравах, калі пачала жыць у Канзасе. Мне не падабаліся амэрыканскія тарты — проста салодкая маса. Таму я пачала гатаваць, пячы. А калі ў нас з Полам нарадзіўся сын, я цалкам перавяла сям'ю на хатнюю ежу».

Уласны бізнэс Наталля адкрыла ў 2011 годзе: «У той год Пол згубіў працу, і мы пераехалі ў Місуры. У маленькім горадзе было цяжка ўладкавацца. Мой муж таксама добра гатуе, і мы вырашылі распачаць уласную справу.

Мы знайшлі стары дом з цікавай архітэктурай, дзе і адкрылі кавярню. Гэта было напярэдадні Калядаў, і многія прыходзілі да нас і прасіліся арганізаваць вечарыну з паўнавартасным абслугоўваннем. Так кавярня стала рэстаранам».

Цяпер «Беларускі пекар» карыстаецца папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва і займае высокую пазіцыю ў рэйтынгу рэстаранаў штата.

Наталля кажа, што ніякага сакрэту няма: у рэстаране яна гатуе таксама, як і дома. Справа ў тым, што амэрыканцы зусім адвыклі ад хатняй ежы: «Нават у многіх амэрыканскіх рэстаранах ежа часцяком гатуецца з паўфабрыкатаў. У нас усё гатуецца са сьвежых прадуктаў».

Хаця меню рэстарана збольшага складаюць традыцыйныя амэрыканскія стравы, Наталля гатуе і беларускую ежу: «Найбольш папулярны боршч. Амэрыканцы завуць яго «вадкай салатай». Узімку я гатую гарачы суп, а ўлетку — халаднік. Людзі каштуюць, ім падабаецца, і яны спрабуюць прыгатаваць боршч дома па рэцэптах з інтэрнэту. Аднак у іх няма досьведу прыгатавання буракоў, таму боршч не ўдаецца, а людзі становяцца сталымі кліентамі рэстарана».

«Асноўнымі наведвальнікамі «Беларускага пекара» зьяўляюцца пенсіянеры, — кажа Наталля.

— Радуе, што апошнім часам прыходзіць больш моладзі. Аднак бывае, што завітваюць беларусы, якія адмыслова прыяжджаюць у рэстаран з «роднай» назвай. Яны абураюцца, што не знаходзяць у меню традыцыйнай беларускай кухні. Такім кліентам я кажу: «Замаўляйце, што хочаце, — я прыгатую».

*Кірыла Хілько*
*Паводле газэты "Наша Ніва"*

Віктар КОТ

# Дзевяць грамаў

Маладзенькі, зь ледзьве высядаючымі вусамі хлапец ля бруднае ад чорнага дыму сьцяны будынку месьцячковае фермы анучкай няўмела праціраў стрэльбу. Дзесьці грукатала. Ад гэтага грукату дрыжэла зямля. Але да тых гукаў ужо прызвычаіліся. Доўжылася вайна, а яны знаходзіліся на перадавой лініі фронту. Сядзеўшы побач мужчына ў прадзіраўленых ботах прагна піў ваду з кацялка. Забаўна было глядзець, як на нязголенай шыі торгаўся ягоны кадык. На выгляд мужчыне было год сорак пяць. На ягонай правай шчацэ чырванела крывёю глыбокая ранка. Хлапец ужо ведаў, што гэтага жаўнера звалі Сымонам, і што ён трапіў у іхную роту тыдзень таму, калі стаўся вызваленым з германскага палону.

Палітрук у званьні маёра скамандаваў, і ўсе пашыхтаваліся. Ён прамаўляў гучна й коратка. "За радзіму, за Сталіна, дабіць ворага, бязьлітасна, вышыня, скупіць віну..." І толькі напрыканцы дадаў нешта не зусім зразумелае: "Той, хто паверне назад, атрымае дзевяць грамаў". Хлапец сьцяўся і запытальна зірнуў на Сымона. "Гэта, сынку, калі павернеш назад, дык цябе свае падстрэлят. Вось так..." Бывалы жаўнер кінуў сумны погляд на пераляканы твар юнака, па сутнасьці яшчэ горкага да ваенных справаў дзіцяці. "Як упадзеш - адразу ж адпаўзай убок. Зразумеў, сынок?" Той кіўнуў у адказ і толькі тады дацяміў, што прыйдзецца бегчы наперад, падаць, страляць, уздымацца. І ў яго таксама стануць страляць.

Прагучала каманда, усе ўзьняліся і ва ўвесь рост ірванулі наперад. Яны крычалі, лаяліся, падалі. У іх стралялі жаўнеры германскае арміі. Адныя нападалі, другія адбіваліся. Выбухі, сьвіст куляў, забітыя, параненыя, адлучанасьць твараў. Глядзеўшыя ў сьпіну дзевяць грамаў гналі людзей у пастку сьмерці. Празь дзесяць хвілін усё сьціхла. Толькі недзе яшчэ чуліся артылерыйскія гукі. Ля траншэі, да якое пасьпелі ўсяго шасьцёра з сарака сямі, літаральна ў пяці мэтрах ля ейнага краю нязграбна раскінуўшы рукі ляжаў Сымон. Ён аддаў перавагу дзевяці грамам германскага сьвінца дзевяціграмоваму "падарунку" Саветаў. На нерухомым твары скамянелая ўсьмешка. Так, вызвалены сьмерцю ад усіх зямных палонаў, ён усьміхаўся. З траншэі чулася нягучнае ўсхліпваньне. То плакаў сямнаццацігадовы хлапец, жаўнер Савецкае Арміі, шараговы штрафное роты Якубка. Якубка Кот.

## Каментар Алеся Ката

Расповед бацькі пра тую самую ягоную першую атаку запісаў мой брат Віктар колькісь год таму, але апрацаваў і даслаў мне ў Канаду толькі ў траўні 2014 г.

Вышэйпаданае адбылося ў сакавіку 1945 году ва Усходняй Прусіі. Вызваленую з германскае няволі групу грамадзянскіх асобаў, працаваўшых на фермах мясцовых баўэраў і з набліжэньнем фронту зьвезеных у бліжэйшы канцлягер, сярод якіх знаходзіўся і наш сямнаццацігадовы бацька Якуб, залічылі ў штрафную роту. Пасьля двухтыднёвае ваеннае падрыхтоўкі, надаўшы кожнаму стрэльбу, дзьвесьце патронаў і дзьве гранаты, усіх іх без усялякага прыкрыцьця кінулі ў першую атаку на германскія кулямёты.

...Вядома, што "штрафнікоў" таксама выкарыстоўвалі ў якасьці жывых мінашукальнікаў, рабіўшых праходы для савецкае наступальнае тэхнікі. Жыцьцё трыццаці альбо сарака шараговых жаўнераў, падрываўшыхся на супрацьтанкавых фугасах, лічылася таньнейшым, чым адзін танк, што йшоў сьледам, уціскаючы ў вясеньні бруд застаўшыхся ў жывых людзей. І заўсёды без выключэньня падчас такіх атакаў ім у сьпіны з дулаў кулямётаў НКВД глядзелі сталінскія дзевяць грамаў сьмерці. Такая людажэрская практыка выкарыстоўвалася савецкім камандаваньнем да самага апошняга дня Другое Усясьветнае вайны.

Пасьля штурму Кенігсберга армія, у якой ваяваў бацька, сталася зьнятай з германскага фронту і перадыслакавана на Далёкі Усход для ваенных дзеяньняў супраць Маньчжурскае арміі Японіі. Саветы прымусілі бацьку адслужыць у войску ўжо пасьля вайны, што скончылася 1 верасьня 1945 г. падпісаньнем Японіяй акту капітуляцыі, яшчэ доўгіх шэсьць гадоў. Шэсьць гадоў прымусу ў Порт Артуры - расейскай ваеннай базе, дыслякаванай у Кітаі на кавалку зямлі, арандаваным яшчэ царскаю Расеяю ў канцы XIX стагодзьдзя тэрмінам на 99 год.

Якуб Кот вярнуўся з вайны дахаты ў Беларусь у 1951 г.

# Віншаваньне сп. Антону Шукелойцу



19 ліпеня сп. Антон Шукелойц адсьвяткаваў свой дзень народзінаў. Сёлета яму споўнілася 99 гадоў.

Віншуем сп. Антона зь ягоным сьвятам і шлем пажаданьне, каб разам праз год адзначыць ягоны 100-гадовы юбілей. Трымайцеся, сп. Шукелойц, і будзьце найлепшым прыкладам малодшым пакаленьням! Добрага здароўя і добрага настрою Вам на шляху да слаўнага юбілею!

З днём народзінаў сп. Шукелойца прыехаў павіншаваць Юрка Андрусышын, якога сп. Антон называе сваім бліжэйшым паплечнікам і памочнікам пад час ягонага кіраўніцтва Галоўнай управаю Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Яны абодва былі радыя сустрэчы і дзяліліся ўспамінамі пра сумесную працу.

# Памёр кінарэжысэр Уладзімір Дашук

У ноч на 30 ліпеня пайшоў з жыцьця беларускі кінарэжысэр Уладзімер Дашук (сын Віктара Дашука). Ня вытрымала сэрца.

Уладзімера Дашука пахаваюць у вёсцы Пярэжыр Пухавіцкага раёна — гэта родная вёска ягонай маці. Разьвітаньне адбудзецца 31 ліпеня ў вёсцы Клінок Чэрвеньскага раёну.

Уладзімер Дашук нарадзіўся ў 1962 годзе.

У 1984 скончыў факультэт журналістыкі БДУ.

Спэцыяльнасьць: рэжысэр, сцэнарыст, журналіст.

З 1983 пачаў працу на кінастудыі «Беларусьфільм» асыстэнтам рэжысэра.

Рэжысэрскім дэбютам стаў дакумэнтальны фільм «Партрэт зь сякерай» пра нацыянальнага скульптара з далёкай беларускай глыбінкі.

У 1990 уступіў у Саюз кінэматаграфістаў.

За час працы на кінастудыі здымаў дакумэнтальныя і публіцыстычныя мастацкія фільмы паводле ўласных сцэнароў.

У 1992 заснаваў студыю відэафільмаў «Знаменьне».

У 1994 заснаваў рэклямнае агенцтва «Ніць Арыядны». З тых часоў зьняў больш за сорак рэклямных кліпаў і прэзэнтацыйных фільмаў.

Фільмаграфія:

«Партрэт зь сякерай», «Грэх» (абодва — 1987);
«Калі-небудзь», «Пэйзаж пасьля бітвы» (абодва — 1989);
«Калыска гойдаецца над безданьню» (1990);
«Форс-мажор», «Ратуйце нашы душы» (1992);
«Мы ўсё ж такі ёсьць» (1995);
«Жарсьць» (2009) — прыз за лепшую рэжысэрскую працу ў Беларусі.

**Леанід АКАЛОВІЧ**

# БУКЕТ ВАЛОШАК
## *Аповяд-быль*

Чэрвеньскім ранкам ехаў я ў Менск. На заднім сядзеньні "жыгулёнка" ляжаў вялікі букет валошак, у сярэдзіне яго тырчалі два жытнёвыя каласы, яшчэ пустыя, пляскатыя і лёгкія, бо збажына толькі адкрасавала, але ў іх бачылася будучая жыцьцёвая сіла.

Я люблю езьдзіць у горад летнім ранкам: дарога вольная, машына, быццам застаялы конь, імчыць лёгка, сьвежы вятрыска лашчыць твар. На душы радасьць і спадзяваньне: прыеду рана, шмат чаго пасьпею зрабіць. Але гэтым разам настрой быў скрушны - ехаў я на пахаваньне. Тужлівыя думкі раіліся ў галаве, згадкі пра сустрэчы зь вялікім пісьменьнікам цясьнілі адна адну. А згадваць было пра што.

Лёс падараваў мне даволі шмат сустрэч з Васілём Быкавым, тэлефонных размоваў, аднойчы быў у яго на кватэры на Танкавай вуліцы, неяк сядзеў побач у застольлі. Быкаў і я выступалі з разьвітальным словам над магілаю Міхася Дубянецкага, дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура". Асабліва пачасьціліся нашы размовы, калі я рэдагаваў кнігу выбраных твораў Васіля Быкава "Знак бяды" ў серыі "Беларуская проза XX стагоддзя".

Ноччу спалася на паўвока: вестка пра сьмерць Быкава ўзрушыла мяне. Прыгадалася першая сустрэча, яшчэ ў старым будынку Саюза пісьменьнікаў на вуліцы Энгельса. Быў нейкі сход, сядзеў я з Паўлам Міська. Зь ім некалі разам працавалі ў "Сельской газете", потым Павел перайшоў у "ЛіМ", куды дапамог перабрацца і мне, дзе я, можна сказаць, другі раз нарадзіўся - стаў Левановічам. Дык вось, у перапынку таго сходу Павал пазнаёміў мяне з Васілём Быкавым. Высокі, падцягнуты, з непаслухмянаю пасмаю русых валасоў, якая спадала на шырокі лоб. Быкаў моцна і, падалося, шчыра пацiснуў маю руку, пільна зірнуў у твар, нібы сіліўся запомніць. Уразілі ягоныя сінія, бы валошкі, вочы: "Чытаў Ваш нарыс пра бульбу. Цікава, праблемна. Бульба - сапраўды наш другі хлеб".

Потым мы ня бачыліся некалькі гадоў, сустрэліся ў Доме літаратара на сэкцыі прозы, якую Васіль Быкаў узначаліў, калі пераехаў на сталае жыцьцё ў Менск. Павітаўшыся, я назваў сябе.

"Я Вас памятаю. Чытаў нядаўна ў "ЛіМе" Ваша апавяданьне. Прызнаюся, не ведаў, што доньнік па-беларуску баркун. І што менавіта жоўты баркун зьбіраюць на зёлкі".

Тады я ня мог і падумаць, што гадоў праз дзесяць мне давядзецца кіраваць секцыяй прозы. Я заўсёды памятаў пра адказнасьць, пра гонар, бо працягваю справу Васіля Быкава. Мой абавязак - падтрымліваць таленавітых празаікаў, рэкамэндаваць іх у наш творчы Саюз.

І застольле, пра якое ўзгадваў, адбылося ў Доме літаратара. Нагода была сур'ёзная: Іван Шамякін, прызначаны на пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", перадаваў ключы ад кабінета першага сакратара Саюза пісьменьнікаў Нілу Гілевічу. Я тады быў старшынём прафкама, членам партбюро, таму і прысутнічаў на той імпрэзе. Сядзеў я паміж Васілём Быкавым і Піменам Панчанкам.

"Вы маладзейшы. Рука ў вас цьвёрдая. Наліце мне трохі гарэліцы, - шапнуў Быкаў.

"А мне, калі ласка, каньячку, - папрасіў Панчанка.

Пасьля чаркі-другой усчалася вясёлая, дасьціпная гамана. Гучна, раскаціста рагатаў Максім Танк, шырока ўсьміхаўся Шамякін. І толькі Іван Чыгрынаў, які сядзеў насупраць нас, быў даволі сумны.

"Наліце Івану Гаўрылавічу. Трэба падвесяліць яго, - шапнуў Быкаў, а ўголас прамовіў: - "Не сумуй, Іване. Ты й так - сьвятлейшы. Цябе паважаюць, чытаюць, любяць".

Усе ведалі, што Чыгрынаў прэтэндаваў на пасаду першага, але пленум Саюза пісьменнікаў абраў іншага. Васіль Быкаў стараўся падбадзёрыць, суцешыць калегу.

Неўзабаве я перайшоў працаваць на тэлебачаньне і адразу ў перспектыўны план уключыў перадачу пра Быкава. Была тады тэлеперадача "Ліра" - сустрэчы знакамітых творцаў у самай вялікай студыі. Перадача адбылася. На памяць мне застаўся аўтограф на першым томе Збору твораў Васіля Быкава. Зялёным фламастэрам буйнымі выразнымі літарамі Васіль Уладзіміравіч напісаў пажаданьне посьпехаў у літаратуры і на тэлеэкране. Але вытрымаў я тэлегармідар два гады. Кінуў вялікі кабінет галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм і засеў за раман "Шчыглы", пачаты сем гадоў таму. Упершыню ў жыцьці адчуў сябе вольным чалавекам, бо служыў толькі Слову. За два гады закончыў раман.

Неяк травеньскім днём 1983 года прыехаў я на Лысую гару, дзе пісьменьнікам далі па пяць сотак зямлі, зьявіліся новыя лысагорцы. Я калупаўся на сваёй дзялцы, як раптам непадалёк спынілася шыкоўная белая "Волга". Зь яе выйшлі Васіль Быкаў і яго жонка Ірына Міхайлаўна. Яны стаялі, сьцішана гаварылі. Быкаў падыйшоў да мяне, павітаўся.

"Ну, як там у Казахстане? Дзякуй, што ўспомнілі і мяне".

"Дык пра Вас там шмат гаварылі. П'есы ідуць у тэатрах, творы перакладаюцца. Пыталіся, над чым Вы працуеце зараз".

Патлумачу для чытача: у той дзень па тэлебачаньні прайшла перадача пра беларуска-казахскія літаратурныя сувязі. Я быў аўтарам сцэнарыя і вядучым. Цяпер нават ня верыцца, што наша тэлебачаньне магло накіраваць трох чалавек: рэжысэра, рэдактара Яўгена Хвалея, ён быў аўтарам сцэнарыя пра беларуска-кіргізскія літаратурныя сувязі, і мяне ў Сярэднюю Азію. Тады, дзякуючы падтрымцы кіраўніка Дзяржтэлерадыё Генадзя Бураўкіна, часта можна было ўбачыць на экране пісьменьніка. Цяпер гэтага няма: і ня ўбачыш, і не пачуеш. Адно гучыць: дзеячы культуры і мастацтва, а літаратары, літаратура нібы не існуюць. Хаця ва ўсім цывілізаваным сьвеце галоўным чыньнікам культуры лічыцца літаратура.

Дык вось, мы перакінуліся словам пра Казахстан, затым Быкаў спытаўся, над чым працую я. Сказаў, што закончыў раман "Шчыглы", шмат сумненьняў, бо першы маштабны твор. Набраўся сьмеласці і папрасіў Васіля Уладзіміравіча прачытаць рукапіс.

"Добранька, прачытаю. Пакіньце ў бібліятэцы Дома літаратара. Я там буду на днях, забяру. Толькі не падганяйце мяне. Месяцы праз два-тры... А сумненьні будуць заўсёды. З гадамі - яшчэ болей".

Месяцы праз тры Быкаў патэлефанаваў: "Прабачце, што доўга чытаў. Не прадыхнуць было. Заўтра еду ў Малдавію. Рукапіс Ваш у бібліятэцы. Падсыпаў трохі заўваг. А ўвогуле твор ёсць. Так што, віншую з першым раманам".

З хваляваньнем разгарнуў рукапіс, шукаючы заўвагі мэтра. Вось яны: акуратным почыркам спісаныя паўтары старонкі. Уверсе першай загаловак: "Добра" , тут адзначалася, што ўдаліся вобразы дзяцей, бацькоў, суседзяў, людзі, як жывыя. Вобразы ўчастковага Бравусава і ўпаўнаважанага па нарыхтоўках Крупадзёрава - адкрыцьцё ў беларускай літаратуры. Далей -"Ня дужа добра": не зусім выразна выпісаны раённыя кіраўнікі, ці патрэбны вынятк і з перапіскі Сталіна з Рузвельтам і Чэрчылем?" З апошняй заўвагай, дарэчы, выказанай вельмі далікатна, я адразу не пагадзіўся. А за раённых кіраўнікоў узяўся шчыра. Напісаў два новыя раздзелы, перапалапаціў некаторыя сцэны.

Я перапісваў твор і з удзячнасьцю думаў пра Быкава: не паляпаў па плячы, як іншыя класікі, прачытаўшы твор маладзейшага калегі, а выказаў канкрэтныя заўвагі. Больш за тое, ён дапамог і надрукаваць раман. У часопісе "Полымя" Іван Пташнікаў пахваліў, падпісаў у друк, а галоўны рэдактар Кастусь Кірэенка ўпёрся: не будзем друкаваць, у творы паліцэйскія злыя, а немцы добрыя. І гэта было сказана пра твор, які мае балючае прысьвячэньне: памяці маіх чатырох братоў, якіх забрала вайна. Мусіў узяць рукапіс і аддаць у "Маладосць". Раман вельмі спадабаўся галоўнаму рэдактару Анатолю Грачанікаву, закінуў слова і Быкаў як член рэдкалегіі. "Маладосць" друкавала "Шчыглоў" ажно ў трох нумарах, наступным раманам гэтак не шанцавала, даводзілася скарачаць, таму я вельмі не люблю часопісныя варыянты, бо гэта скалечаныя творы.

Пасля Радашковічаў дарога ішла пад гару. "Жыгулёнак" рэзка збавіў хуткасьць, цісну на педаль акселератара, а матор не цягне. Пераключыўся на другую хуткасць, сяк-так выехаў на маладзечанскую шашу, але тут машына заўпарцілася на роўнай дарозе, зьвярнуў на ўзбочыну. Абыйшоў машыну - усё на месцы, праверыў кантакты правадоў высокага напружаньня, якія ідуць ад свечак, падпампаваў паліва. Матор загркатаў, а машына ні з месца... Усё зразумела: паляцела, як гавораць вадзіцелі, шчапленьне.

Пачаў галасаваць. Адна іншамарка прасьвістала міма, другая спынілася. Выйшаў даволі малады чалавек, выслухаў мяне, сеў за руль майго аўта, завёў матор, патузаў пераключальнік хуткасьцей.

"Так, счапленне паляцела. На жаль, дапамагчы не змагу. Далёка трэба ехаць. Часу няма".

"А я еду на пахаваньне Васіля Быкава. Вязу букет васількоў".

"На пахаванне Быкава? Тады я вас не пакіну".

Ён дастаў буксірны трос і пацягнуў маю "калымагу" ў Менск. Даехалі, уладкавалі машыну на стаянку. Мой ратавальнік Уладзімір Усеня, дырэктар фірмы "Архідэя" зь Вілейкі, браць грошы за дапамогу адмовіўся. "Вось калі кніжку падпішаце, буду вельмі ўдзячны". Падараваў Уладзіміру "Ларысу, альбо Каханне аўтамабілі-

ста".

Прыгода на дарозе ўзрушыла і ўсхвалявала мяне. Я быў удзячны свайму ратавальніку, удзячны лёсу, што ўсё добра скончылася.

Разам з жонкаю паехалі ў Дом літаратара. Жалобная чарга разьвітацца зь вялікім пісьменьнікам пачыналася метраў за сто. Жонка з букетам засталася трымаць чаргу, а я пайшоў наперад. Аглядаў даўжэзны гурт зажураных людзей, зрэдку траплялся знаёмыя, калегі-літаратары. Запрашалі далучыцца да іх, каб меней стаяць, але я не пагадзіўся. Калі вярнуўся на сваё месца, людзей нашмат паболела. Жалобная чарга пачыналася амаль ад станцыі метро, нібы вырастала з глыбіні зямлі.

Гэтая ўсенародная любоў да Васіля Быкава хвалявала, прымушала ганарыцца за нашу літаратуру. Ніхто не загадваў гэтым людзям ісьці сюды: ні райкам, ні гаркам. Народ ішоў па загаду сэрца, каб разьвітацца зь вялікім сынам беларускай зямлі, сапраўды Народным пісьменьнікам. Менавіта любоў да Быкава прымусіла бізнэсоўца Уладзіміра Усеню адкінуць неадкладныя справы і ратаваць мяне, каб я пасьпеў пакласьці букет валошак...

Гадзіны праз дзьве мы наблізіліся да будынка Дома літаратара. Да мяне падыйшла незнаёмая кабета, папрасіла некалькі валошак: "Гэтыя кветкі лепей, чым сьціплы букет на кветкавую гару, пакланіўся з удзячнасьцю вялікаму чалавеку. Затрымацца не было магчымасьці, але краем вока згледзеў, як жанчына ў жалобнай хусьце, што сядзела каля труны, узяла валошкі з жытнёвымі каласамі, паклала ля грудзей нябожчыка.

Хоць цяжка было сказаць пра сяброў дзікі. Гэта - вочы нашай зямлі".

Труна нябожчыка літаральна патанала ў кветках. Я паклаў свой сьціплы букет на кветкавую гару, пакланіўся з удзячнасьцю вялікаму чалавеку.

І падалося мне, што на сурова сьціснутых вуснах Васіля Быкава мільганула сьветлая ўсьмешка.

# У памяць Міколы Прускага



Сьв. + Пам.
МІКОЛА ПРУСКІ
01. І. 1928 – 22. І. 2014

*Мы ужо падавалі ў нашай газэце сумную вестку пра адыход у вечнасьць сп. Міколы Прускага. Пазьней нэкралёг даслала нам жонка, а цяпер удава, сп. Вера. Ад імя сям'і яна папрасіла надрукаваць у газэце менавіта іх тэкст, які яны падрыхтавалі. Лічым, што інфармацыю пра такога выдатнага дзеяча і чалавека, якім быў Мікола Пруські, варта друкаваць і аддаць яшчэ большую даніну ягонай памяці. Выказваем ізноў спачуваньні сп. Веры і дочкам сп. Прускага Ганьне і Софіі.*

1-га студзеня ў горадзе Гранд Рапідс у штаце Мічыган адыйшоў у вечнасьць ведамы беларускі грамадзка-культурны дзеяч, журналіст, рэдактар, выдавец Мікола Пруські, сваяк Якуба Коласа родам зь Мікалаеўшчыны. Пакінуў Мікола ў смутку жонку Веру, дачок Ганну й Софію ды ўнукаў Аляксандра й Міколку, а таксама сястру Марыю й многа пляменьнікаў.

У пахавальным доме Metcalf & Jorkhoff сабралася група родных і знаёмых. На пакрышцы закрытай дамавіны быў пакладазены бел-чырвона-белы сьцяг і кветкі, а побач стаяў мантаж фатаграфіяў і ягоныя публікацыі, такія як "Беларускі Сьвет" (1960-я гг.), "Беларускі Дайджэст" (90-я й далейшыя гады) і друкаваныя сьведчаньні ягонай дзейнасьці ў такіх арганізацыях як Healing the Children (Michigan-Ohio Chapter) ды International Aid (гуманітарная дапамога ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

Пахавальны абрад 25 студзеня выканаў а. Даніель Далі з царквы Сьв. Мікалая юрысдыкцыі Антыяхійскай Праваслаўнай Царквы. Пахавіны адбыліся на могільніку Грэйслэнд Мэмор'ял Парк, які знаходзіцца ў ваколіцы, дзе Мікола пражыў зь сям'ёй сорак гадоў.

Сваё жыцьцё Мікола прысьвяціў беларускай незалежніцкай справе, сям'і й грамадзкай дзейнасьці. Ягоны вялікі беларускі патрыятызм быў яркім прыкладам для сяброў і маладога пакаленьня. Пра яго яшчэ будуць пісаць сябры-супрацоўнікі й дасьледнікі беларускага жыцьця як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі.

Няхай мічыганская зямля будзе яму пухам!

Вечная памяць!

# Памёр Генадзь Бураўкін



30 траўня 2014 на 78-ым годзе жыцьця памёр паэт і дзяржаўны дзеяч Генадзь Бураўкін. Апошнія месяцы ён змагаўся з анкалягічным захворваньнем.

Генадзь Бураўкін нарадзіўся 28 жніўня 1936 году ў вёсцы Шуляціна (цяпер вёска Тродавічы) Расонскага раёну Віцебскай вобласьці. Скончыў аддзяленьне журналістыкі філфаку БДУ (1959).

Працаваў у часопісе «Камуніст Беларусі», у газэце «Літаратура і Мастацтва», быў карэспандэнтам «Праўды» па Беларусі, галоўным рэдактарам часопіса «Маладосьць».

З 1978 году — старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па тэлебачаньні і радыёвяшчаньні.

У студзені 1990 у Вярхоўным Савеце 11-га скліканьнея быў адным з дэпутатаў, якія дамагаліся прыняцьця Закону аб мовах.

У 1990 атрымаў прызначэньне пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН. Пасьля вяртаньня, у 1994-1995 гадах быў намесьнікам міністра культуры і друку. У 1995-2001 гадах працаваў у часопісе «Вожык».

Аўтар больш чым двух дзясяткаў паэтычных кніг, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы.

## Прыходзіць чалавек у барэце і кажа: «Я Генадзь Бураўкін»

Дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель: «Мы ў Нью-Ёрку атрымалі вестку, што памёр Генадзь Бураўкін. Мяне гэтая вестка проста-такі прыбіла. З Генадзем Бураўкіным я знаёмы ад 1977 году. Я працаваў у бібліятэцы, і раптам прыходзіць чалавек у барэце і кажа: «Я Генадзь Бураўкін». Я кажу: «Я Вас ведаю зь літаратуры». Гэтак мы пазнаёміліся. Ягоная мэта тады была давесьці наклад часапіса «Маладосьць» да 25 000. Ён хварэў душой, каб беларускае слова разыходзілася, каб людзі больш чыталі. Хварэў душой, каб нічога ня сталася гэтаму краю. Сапраўды, шляхотны быў чалавек, стараўся свае думкіперадаць як мага шырэй. У той час нават мець кантакт з эмігрантамі – гэта была не такая простая зьява. Пазьней мы ўжо, безумоўна, пасябравалі бліжэй, адзін да аднаго хадзілі... Я выказваю вялікае спачуваньне спадарыні Юлі і ўсяму беларускаму народу, таму што памёр вялікі патрыёт. Для нас гэта вялікая згуба».

*Вітаўт Кіпель*

## Я меў вялікі гонар сьпяваць песьні на ягоныя цудоўныя вершы

Сьветлыя і прыемныя ўспаміны пра тыя гады, калі шаноўны Спадар Бураўкін быў годным і элегантным прадстаўніком Беларусі ў ААН у Нью Ёрку... пра весела праведзеныя вечарыны ў Глэн Кове з гасьцінным паэтам-паслом і прыгожай Спадарыняй Юляй ды іхнімі дзецьмі. Я меў вялікі гонар сьпяваць песьні на ягоныя цудоўныя вершы. Вечная памяць і найшчырэйшыя спачуваньні сям'і.

*Сьпявак і журналіст Радыё Свабода Данчык*

# Памерла Валянціна Зімніцкая



11 ліпеня ня стала Валянціны Зімніцкай, жонкі палітыка Юрыя Хадыкі, маці журналіста Аляксея Хадыкі.

Валянціна Зімніцкая брала ўдзел у грамадзкай дзейнасьці. Яна ратавала Сяргея Каваленку і ахвяравала на дзейнасьць ТБМ. Бараніла мужа ў турме і выходзіла на талаку ў Курапатах

Апошнім часам сп. Валянціна цяжка хварэла.

# Сьветлай памяці Валерыі Навадворскай



У Маскве 12 ліпеня на 65-м годзе жыцьця памерла дысыдэнтка, вядомая грамадзкая і палітычная дзеячка Валерыя Навадворская.

Валерыя Навадворская нарадзілася 17 траўня 1950 году ў Баранавічах. У 1969 годзе ў Крамлёўскім палацы зьездаў Валерыя Навадворская распаўсюдзіла ўлёткі з антысавецкім вершам ўласнага сачыненьня. Яе арыштаваў КДБ, з чэрвеня 1970 па люты 1972 года яна знаходзілася на прымусовым псыхіятрычным лячэньні. Пасьля клінікі на волі займалася самвыдатам, працавала пэдагогам і перакладчыцай, спрабавала стварыць падпольную партыю для барацьбы з КПСС. У 1978, 1985, 1986 гадах Навадворскую судзілі за дысыдэнцкую дзейнасьць.

Да апошняга часу Навадворская займалася журналістыкай і асьветніцкай дзейнасьцю, друкавалася на сайтах Грані.Ру, «Эхо Москвы», у часопісе The New Times.

Валерыя Навадворская заўсёды цікавілася падзеямі ў Беларусі, востра крытыкавала дыктатарскі рэжым і падтрымлівала апазыцыйныя сілы. Мы страцілі нашага надзейнага сябра і прыхільніка ў Расеі.

## Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) паведамляюць,

што 31- я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбудзецца 30-31 жніўня 2014 у беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры на 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне

**Тэма Сустрэчы: «Беларусы Паўночнай Амэрыкі. Выклікі часу. Пэрспэктывы разьвіцьця»**

- Панэльная дыскусія на тэму Сустрэчы
- Канцэртная праграма, сяброўскія спатканьні, смачная ежа, гістарычныя фільмы, танцы, гульні...
- Мастацкія выставы, сярод якіх фота пра Беларусь Джона Кунстадтэра

**Запрашаюцца ўсе зацікаўленыя!**

## Паважаныя сябры, удзельнікі Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі!

**Пакоі ў гатэлі COMFORT INN 279 Butler St, Brooklyn, NY** замоўлены на дьзве ночы 30-га і 31-га жніўня 2014 г. па сьпецыяльна зьніжанаму кошту.

Тэл. 1-718-855-9600 Ask for groop rate for Belarusian Convention
Rooms with one King bed or two double beds, cost per night $139 + tax
can accommodate 2-4 persons
(rate valid for reservation made until August 15)
Payment by credit card.

**Гатэль знаходзіцца ў 10 хвілінах пешкам ад Беларускага грамадзка-рэлігійнага цэнтру на 401 Atlantic Avenue.**

## На выданьне «Беларуса» ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Іосіф Адамовіч | $20 |
| Ян Барысевіч (Аўстралія) | $ 90 |
| Кацярына Вініцкая | $100 |
| Валянціна Вішнеўская | $ 50 |
| Алена Касоўскі | $100 |
| Алена Касоўскі | $200 |
| Зоя Нікіфаровіч | $50 |
| Маргарыта Пярова (Санкт-Пецярбург, Расея) замест кветак на магілу Валянціны Зімніцкай | $20 |
| Ларыса Пузач | $50 |
| Дзмітры Такарскі | $50 |
| Іна Фанская | $50 |
| Яўгеньня | $70 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты
Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*
Грашовыя чэкі выпісываць на імя : *BIELARUS newspaper*
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*